№135 (1948)
Пятніца, 23 ліпеня 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец: УП «Народная воля»
Кошт свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### *Надвор'е*

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +27...+29, сонечна, уначы — +16...+18, без ападкаў; у Брэсце ўдзень — +24..+26, уначы — +16...+18, на працягу сутак — без ападкаў; у Гродне ўдзень — +22...+24, дождж, уначы — +16...+18, без ападкаў; у Віцебску ўдзень — +24...+26, сонечна, уначы — +16...+18, без ападкаў; у Гомелі ўдзень — +26...+28, без ападкаў, уначы — +17...+19, без ападкаў; у Магілёве ўдзень — +27...+29, сонечна, уначы — +17...+19, без ападкаў.

*www.meteo.by*



**ПУЛЬС**

## Перакулілася «маршрутка»

Учора раніцай у Мінску на праспекце Францыска Скарыны ў раёне Галоўнага паштамта адбылося сутыкненне маршрутнага таксі з пасажырскім аўтобусам. У выніку сутыкнення "маршрутка" праляцела некалькі метраў і, перакуліўшыся, упала на асфальт. У салоне таксі знаходзіліся каля 8 чалавек. Пасажыры аўтобуса не пацярпелі. У выніку дарожна-транспартнага здарэння былі зачэплены аўтамашыны, якія знаходзіліся паблізу ад месца аварыі. Шпіталізаваны тры чалавекі.

**Вольга АСІПЕНКА.**

## «Віцязь» можа займець другое «грамадзянства»

Тэлевізары папулярнай маркі "Віцязь", магчыма, неўзабаве будуць збірацца не толькі ў віцебскіх, але і ў грузінскіх цэхах. Такое меркаванне ў час знаходжання на віцебскім тэлезаводзе выказаў кіраўнік грузінскай дзелавой дэлегацыі, дзяржаўны міністр Гурам Абснадзе, які прапанаваў кіраўніцтву вытворчага аб'яднання "Віцязь" стварыць на тэрыторыі яго краіны зборачныя філіялы. "Мы пераканаем вас, — пажартаваў міністр, — што грузіны могуць не толькі напісаць паэму пра "Віцязя ў тыгровай шкуры", але і стаць "сааўтарам" тэлевізара "Віцязь", які карыстаецца такім устойлівым попытам у многіх краінах".

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

**ТАМ, У ГОМЕЛІ**

## Любоў пад аўтаматамі

Дзесяцігадовы юбілей кіраванння краінай Аляксандрам Лукашэнкам прадстаўнікі гомельскай незарэгістраванай маладзёжнай арганізацыі "Лімон" вырашылі адзначыць па-свойму. У жоўтых саколках з прыгожымі каляровымі партрэтамі кіраўніка дзяржавы яны выстраіліся ля універмага "Гомель" у ланцуг неабыякавых людзей.

Меншага памеру партрэты "лімонаўцы" спрабавалі раздаваць прахожым. Пры гэтым тлумачылі, што акурат 21 ліпеня споўнілася 10 гадоў, як Аляксандр Лукашэнка прыступіў да кіравання Беларуссю ў якасці яе першага прэзідэнта.

Хвілін праз 15 да прыступак універмага падрулілі дзве міліцэйскія аўтамашыны. З іх высыпала звыш паўдзесятка міліцыянераў. Некаторыя былі ўзброены аўтаматамі.

Распараджаўся ўсім начальнік Цэнтральнага РАУС падпалкоўнік міліцыі Валерый Стрыгалёў.

У высокага хлопца з павязанай на шыі жоўтай касынкай падпалкоўнік Стрыгалёў з памочнікамі забраў пасведчанне і накіраваўся да ланцуга. Тут ён стаў патрабаваць ад маладых людзей з партрэтамі Аляксандра Лукашэнкі разысціся.

— Бачыце, нельга ўжо стаяць і выказваць сваю любоў да прэзідэнта. Хочуць нас затрымаць усіх, — казаў удзельнік акцыі, які назваўся Сяргеем.

За падзеямі сачыў прадстаўнік праваабарончага руху Анатоль Паплаўны. Ён патлумачыў падпалкоўніку Стрыгалёву, што той парушае Адміністрацыйны кодэкс, забіраючы дакумент у хлопца без сведкаў і адпаведнага пратакола.

— А што я забраў? У мяне ў руках, я вось чытаю, — стаў апраўдвацца падпалкоўнік і ўрэшце вярнуў удзельніку акцыі пасведчанне.

Я ў сваю чаргу паспрабаваў высветліць у Валерыя Стрыгалёва, што парушыла моладзь, стаўшы ў ланцуг з партрэтамі кіраўніка дзяржавы?

— Прыбярыце свой інструмент (дыктафон. — **Аўт.**) і потым гаварыце са мною. Вы зразумелі? — непрыязна адказаў падпалкоўнік.

— Усё-такі, што яны парушылі? — спрабую высветліць у міліцэйскага начальніка.

— Мы пакуль не канстатуем, што яны парушылі... Мы высвятляем, хто арганізаваў дадзенае мерапрыемства.

Прадстаўнік УУС аблвыканкама палкоўнік Аляксандр Гаркоў (ён быў у цывільным адзенні) які стаяў ля універмага, падхапіў пад локаць Валерыя Стрыгалёва: "Паехалі! Паехалі!" І тут падпалкоўнік пагрозліва папярэдзіў аўтара гэтых радкоў: "Вы мяне яшчэ не ведаеце! Я табе пакажу!"

Што збіраўся паказаць падпалкоўнік, пакуль невядома.

Стала, аднак, бачна іншае. Высілкамі міліцыі ланцуг моладзі з партрэтамі Аляксандра Лукашэнкі быў выціснены з тэрыторыі ля універмага. Хлопцы і дзяўчаты, каб не пакамячыць, акуратна скруцілі ў трубачкі партрэты першага прэзідэнта і з сумам разышліся.

Любіць таксама не дазваляюць!

**Анатоль ГАТОЎЧЫЦ.**

# Мінск, 21 ліпеня 2004 года


















**ПАСТСКРЫПТУМ**

# У імпатэнтаў дзяцей не бывае

*Адразу заўважым: арганізатары акцыі "Наш адказ сістэме" перамудрылі з месцам збору ўдзельнікаў акцыі. У лістах, якія за некалькі дзён да 21 ліпеня атрымалі на хатні адрас патэнцыяльныя ўдзельнікі акцыі, месцам збору значылася плошча Якуба Коласа, пра што гаварыла і наглядная агітацыя ў выглядзе налепак. Але ў апошні момант вызначылася: плошча Якуба Коласа — 18.00, плошча Бангалор — 19.00. Куды людзям ісці?*

Мы былі на Плошчы Якуба Коласа на пачатку шостай гадзіны вечара. Прайшоўшыся па прылягаючых да плошчы дварах, не ўбачылі міліцэйскіх аўтобусаў. Аднак прыкладна за паўгадзіны да акцыі плошча была ачэплена супрацоўнікамі АМАП. Людзей, якія мірна прагульваліся ля помніка Якуба Коласа, прасілі не спыняцца, і нават забаранялі ім сядзець на лавачках, якія стаяць тут жа. Таму што збор удзельнікаў акцыі на плошчы Я.Коласа, як падкрэслівалі супрацоўнікі міліцыі, быў забаронены.

Але тыя, хто прыйшоў менавіта на акцыю, заставаліся на месцы — хто на аўтобусным прыпынку пад выглядам пасажыраў, хто каля ўваходу ў метро. Дарэчы, калі міліцыяй быў перакрыты ўваход у станцыю метро "Плошча Якуба Коласа", падумалася, што нічым добрым гэта не скончыцца. На памяць адразу прыйшлі падзеі акцыі, прымеркаванай да Дня волі, якая прайшла тут жа, на плошчы Якуба Коласа некалькі гадоў таму, калі людзей разганялі вадамётамі і жорстка збівалі. Тады ўсё таксама пачыналася з забароны ўваходу ў метро...

Як высветлілася пазней, невялічкую купку моладзі, якая пачала збірацца ля будынка Белдзяржфілармоніі з нагоды немагчымасці падысці непасрэдна да помніка Я. Коласу, раптам узяла ў кальцо група АМАПа. Пасля таго, як нехта паспрабаваў разгарнуць бел-чырвона белы сцяг, пачалася бойка. Людзей, у тым ліку падлеткаў, збівалі нагамі, цягнулі ў аўтазак. Прычым збітымі аказаліся не толькі ўдзельнікі акцыі, але і выпадковыя прахожыя. Дзесяткі чалавек адвезлі у Савецкі РАУС г. Мінска, суды над імі павінны былі адбыцца ўчора. Дарэчы, у разгоне людзей прынялі ўдзел не толькі амапаўцы, але і невядомыя людзі ў цывільным...

Тым, хто падпарадкаваўся патрабаванням міліцыянераў, абсалютна спакойна далі прайсці на плошчу Бангалор. Арганізаванай калонай людзі рушылі на Бангалор, дзе і пачаўся мітынг. Па розных падліках тут сабралася пару тысяч чалавек. Нават калі гэтая лічба заніжана альбо крыху завышана — акцыя аказалася не той, пра якую ўвесь час гаварылі яе арганізатары.

Некаторых людзей, асабліва сталага веку, адразу ж крыху спужалі моцныя акорды металічнага року Аляксандра Памідорава і барабанных варыяцый групы "Драм Экстазі", і таму некаторыя пажылыя ўдзельнікі акцыі адразу ж сышлі. Гітарыст гурта N.R.M **Піт Паўлаў,** які прымаў удзел у канцэрце, паведаміў "Народнай волі": *"Я катэгарычна не задаволены колькасцю прысутных. Хацелася, каб іх было прыкладна ў 100 ці 200 разоў болей, толькі тады нешта пераломіцца".*

Перад удзельнікамі акцыі выступілі дэпутаты ППНС **Валерый Фралоў, Уладзімір Парфяновіч, Сяргей Скрабец, а таксама Людміла Гразнова, Уладзімір Колас, Ірына Красоўская, Валерый Шчукін** і іншыя. Агульная думка ўсіх выступоўцаў: так далей жыць нельга! Многія гаварылі аб недапушчэнні трэцяга тэрміну праўлення Аляксандра Лукашэнкі. Уладзімір Парфяновіч звярнуўся да прысутных з пасьбай не дапусціць гвалтоўнага змянення Канстытуцыі, Людміла Гразнова заклікала прыняць удзел у парламенцкіх выбарах, Валерый Шчукін — да больш радыкальных крокаў...

Далей адбыўся, дарэчы, вельмі добры канцэрт з удзелам папулярных беларускіх гуртоў і выканаўцаў. Музыканты выходзілі на сцэну паміж прамовамі грамадскіх і палітычных дзеячаў. Падчас выканання песні "Паветраны шар" гурта N.R.M над натоўпам з'явіліся вялізныя паветраныя шары з партрэтам Аляксандра Лукашэнкі і надпісам "Надоел". Як прызнаўся саліст N.R.M Лявон Вольскі, *"паляцець на такім шары не хацеў бы, бо з яго можна балюча ўпасці..."*

Дарэчы, як толькі скончыўся заяўлены арганізатарамі час канцэрта, электрычнасць на сцэне была выключана. Таму Аляксандру Куллінковічу з гурта "Нейра-Дзюбель" прыйшлося пець толькі пад акампанемент барабана і без мікрафона...

Прысутныя на мітынгу дзяўчыны атрымалі кветкі, а вось дзеці засталіся без абяцанага марожанага. Меркавалася, што дзецям будзе раздадзена марожанае, але, па словах Валерыя Фралова, міліцыя развярнула машыны з ласункамі...

Самі арганізатары акцыі задаволены тым, як прайшла акцыя. Вось што сказаў Валерый Фралоў: *"Лепш адзін канкрэтны крок, чым дзесяць праграм. Мы распачалі рухацца. Гэта першы крок, за ім будуць наступныя."* Сяргей Скрабец таксама далучыўся да слоў генерала Фралова: *"З пункту гледжання паводзін людзей, акцыя прайшла нармальна, а вось паводзіны міліцыі... Мяне "памялі" на плошчы Якуба Коласа падчас хапуна. Нягледзячы на тое, што я заявіў, што з'яўляюся дэпутатам..."* Уладзімір Парфяновіч таксама выпусціў некалькі крытычных стрэл у бок міліцыі: *"Такога дзікунства, хамства мы не чакалі. Тым больш на сваёй нядаўняй прэс-канферэнцыі Аляксандр Лукашэнка чатыры гадзіны расказваў пра тое, што ў Беларусі поўная дэмакратыя. Мы сёння змаглі навідавоку пабачыць гэтую "дэмакратыю".*

Пасля заканчэння акцыі на плошчы Бангалор група актывістаў незарэгістраванага руху "ЗУБР" накіравалася да Савецкага РАУС, каб падтрымаць арыштаваных сяброў. Але на шляху ў РАУС іх блакіравалі міліцэйскія аўтобусы. "ЗУБРы" сілай былі зацягнуты ў іх, а потым без усялякіх тлумачэнняў былі вывезены за межы Мінска і проста выкінуты на вуліцу... Уяўляем пачуцці тых, хто аказаўся ў аўтазаках у той момант: куды вязуць, што збіраюцца рабіць?

Як стала вядома пазней, міністр унутраных спраў Уладзімір Навумаў правёў прэс-канферэнцыю, на якой заявіў, што карэспадэнт расійскага канала РТР Зміцер Пятроў "грубо исказил информацию", значна завысіўшы лічбу яе ўдзельнікаў. Цяпер З. Пятрову пагражае пазбаўленне акрэдытацыі і нават дэпартацыя.

Каб паменшыць колькасць удзельнікаў акцыі ў Мінску, "добра" пастаралася міліцыя. Як паведамляе прэс-служба Аб'яднанай грамадзянскай партыі, групу актывістаў, напрыклад, з Оршы, якія збіраліся прыняць удзел у акцыі, затрымалі ў Талочыне. Потым усіх папрасілі пакінуць салон, людзі былі вымушаны вярнуцца ў Оршу на электрацягніку. Адначасова ў Віцебску затрымалі 15 чалавек, удзельнікаў акцыі "Ланцуг неабыякавых людзей", таксама прысвечанай дзесяцігоддзю праўлення А. Лукашэнкі...

Што ж, чарговая і зноў малакалькасная акцыя пратэсту ў Мінску адбылася. Яна скончылася чарговымі судамі, штрафамі, якія, відаць, прыйдзецца плаціць самім удзельнікам, збіццём людзей. Арганізатары акцыі лічаць яе ўдалай. Мы, на жаль, не падзяляем гэтага аптымізму. З вельмі дакладным, на наш погляд, загалоўкам выйшла пра гэтую акцыю інтэрнет-выданне "Белорусские новости": "Наш адказік сістэме". Так, так, спадар Фралоў энд компані, вы хацелі арганізаваць "Наш адказ сістэме", а атрымаўся "адказік". Абяцалі 40 тысяч удзельнікаў, а атрымалі ... І, упэўнены, усё хаваецца ў самой арганізацыі акцыі. Слаба, недастаткова актыўна папрацавалі з людзьмі. Мала раскідаць улёткі па паштовых скрынках, з электаратам трэба працаваць не ад акцыі да акцыі, а штодзённа. І не ў белых пальчатках, а засучыўшы рукавы да самых локцяў.

У імпатэнтаў дзяцей не бывае. У тым ліку ў імпатэнтаў палітычных. Мы ўсё ж такі спадзяёмся, Валерый Дзмітрыевіч, што "з гэтай справай" у вас усё добра. І вы ў будучым здолееце разабрацца ў тым, хто ёсць хто. Хто сапраўды хоча дапамагчы Вам разбудзіць людзей, усталяваць у краіне дэмакратыю, вярнуць ёй надзею на добрую будучыню, і хто здольны пра гэта толькі балбатаць, падмяняючы канкрэтныя справы пустымі словамі. Калі б апошніх у вашым, Валерый Дзмітрыевіч, атачэнні было менш, то ў акцыі "Наш адказ сістэме" на плошчы Бангалор прынялі б удзел не пару тысяч чалавек, а ў дзесяткі, а можа, і сотні разоў больш. І тады, мы ўпэўнены, ніхто не падумаў бы падымаць руку на людзей...

**Віталь ГАРБУЗАЎ,**
**Алесь СІЛІЧ.**
**Фота photo.bymedia.net**

**ИЗ ПЕРВЫХ УСТ**

*Валерий ФРОЛОВ:*

## «Мы просто были романтиками...»

***Депутат Палаты представителей, генерал-майор Валерий Фролов не считает, что организованная акция закончилась провалом.***

— Многие люди не знали, где точное место сбора, поэтому и пришли на площадь Якуба Коласа. Минут за сорок до начала акции омоновцы стали всех вытеснять с площади. До этого в личной беседе начальник минского ОМОНа Юрий Подобед сказал мне, что они не допустят никаких сборов в центре города. И в самом деле пройти на площадь было невозможно: выходы из переходов и метро были плотно блокированы.

**— Но, наверное, можно было взять в руки громкоговоритель и объявить, чтобы все стройными рядами отправлялись вслед за Вами на Бангалор?**

— А чего говорить, если сотрудники правоохранительных органов сами говорили от моего имени, чтобы все двигались на Бангалор? Люди начали двигаться, но тут прибежал ОМОН, всем преградили путь и начался хапун.

**— Вы обещали, что придет около 40 тысяч человек. Их не было. По-Вашему, это не провал?**

— Нет, не провал. Мы просто оказались романтиками, думая, что люди, которые приедут на встречу с нами со всех концов Беларуси, каким-то образом выскажут свою позицию, скажут, что они действительно озабочены состоянием дел в Беларуси, но в ходе организации акции мы поняли, что людей будет гораздо меньше, чем мы ожидали... Но я думаю, что это только начало. Важно сделать первый шаг. И лучше сделать и жалеть, чем не сделать и жалеть. Когда-то и Владимир Ильич Ленин говорил, что один конкретный шаг лучше ста программ и намерений...

**— Известно, что заместителю председателя Объединенной гражданской партии Людмиле Грязновой за участие в "Чернобыльском шляхе" впаяли штраф, который она не в состоянии оплатить самостоятельно. Намерены ли Вы помочь с выплатой штрафов тем, кого задержали во время позавчерашней акции?**

— Всем, кто будет осужден, будет оказана помощь в виде передач. Что касается денег, то, раз мы организовали акцию, значит, должны и отвечать, и помогать...

**— Вы имеете в виду материальную помощь?**

— Да, материальную.

**Марина КОКТЫШ.**

**РЭХА**

## «...А пасля нас прывезлі да нейкіх могілак і сказалі: «Выметайтесь, уроды!»

*Большая частка затрыманых — актывісты незарэгістраванага руху «Зубр»*

"Хуткую"! "Хуткую" выклікайце!" — закрычалі ў натоўпе. Аднаму з актывістаў "Зубра" зрабілася дрэнна пасля так званай зачысткі тэрыторыі. "Не трэба "хуткую", калі памру, дык за Беларусь", — храбрыўся пацярпелы.

"Білі моцна, нагамі, гумовымі дубінкамі, — распавядае хлопец, — але асаблівыя здзекі пачаліся ў аўтобусе. Такое ўражанне, што некаторыя міліцыянеры "адрываліся" за ўсе свае крыўды".

Падчас акцыі было затрымана некалькі дзесяткаў чалавек, у асноўным моладзь. Міліцэйскі картэж даставіў маладых людзей у Савецкае РУУС. Непаўналетніх мінчан праз пэўны час выпусцілі, іншагародніх адвезлі ў дзіцячы прыёмнік-размеркавальнік, абяцаючы перадаць з рук у рукі бацькам.

Але самай далёкай для маладых актывістаў сталася "вандроўка" да сцен міліцэйскага пастарунка, каб маральна падтрымаць сваіх сяброў. "Непаслухмяную" моладзь (каля 30 чалавек) перахапілі яшчэ на шляху да пастарунка, загрузілі ў аператыўна падагнаны міліцэйскі аўтобус, пасля чаго "пякельная машына" накіравалася ў бок Баранавічаў. "Нам не сказалі, за што затрымалі, куды вязуць, але праз пэўны час было ўжо зразумела, што не ў пастарунак, паколькі за вокнамі была бачна траса. Везлі як звяроў якіх, не дазвалялі нават сесці. У рэшце рэшт спыніліся каля нейкіх могілак, адчынілі дзверы і сказалі: "Выметайтесь, уроды!" Да Мінска давялося дабірацца аўтастопам", — кажуць маладыя апазіцыянеры.

Па інфармацыі праваабаронцаў, 26 удзельнікаў акцыі былі прыцягнутыя да адміністрацыйнай адказнасці (непаўналетніх пасля разбіральніцтва выпусцілі).

**Вольга КЛАСКОЎСКАЯ.**

## Парфяновіч збіраецца працаваць над памылкамі

Трохразовы алімпійскі чэмпіён, дэпутат Палаты прадстаўнікоў **Уладзімір Парфяновіч** прызнае, што падчас арганізацыі акцыі былі дапушчаны памылкі.

*"У наступны раз мы будзем запрашаць людзей у адно канкрэтнае месца, каб улады ні да чаго не змаглі прычапіцца,* — гаворыць Уладзімір Уладзіміравіч. — *Месца збору павінна быць адно. Бадай, гэта самая вялікая памылка, якую дапусцілі арганізатары. Але ў наступны раз мы мяркуем сабраць нашмат болей народу".*

**Даша ПАЎЛОЎСКАЯ.**

ЧУЛІ?

# «Савушкін прадукт» рыхтуецца выйсці на заходнееўрапейскі рынак

Сёлета адкрытае акцыянернае таварыства "Брэсцкі малочны камбінат", які выпускае прадукцыю пад таварнымі знакамі "Савушкін прадукт" і "Формула здароўя", плануе атрымаць так званы нумарны знак Еўрапейскага Саюза, ці ветэрынарны код. Гэта дазволіць прадпрыемству свабодна гандляваць на рынках краін — членаў Еўрасаюза.

Як заявіў журналістам 21 ліпеня на прэс-канферэнцыі ў Брэсце дырэктар ААТ "Брэсцкі малочны камбінат" Аляксандр Саўчыц, за якасць выпускаемай прадукцыі ён спакойны. Асноўнай перашкодай, паводле яго слоў, застаецца ветэрынарыя: замежныя эксперты глядзяць не толькі на якасць малочных прадуктаў, але і на стан сельгаспрадпрыемстваў, якія забяспечваюць камбінат сыравінай. У сувязі з гэтым у верасні плануецца правесці семінар, прысвечаны гэтай праблеме. "Я думаю, сёлета ў нас будзе гатова каля 15 ферм, адпавядаючых усім еўрапейскім стандартам", — сказаў А.Саўчыц.

Ён адзначыў, што гэта не першы вопыт супрацоўніцтва малочнага камбіната з краінамі Заходняй Еўропы. Напрыклад, сёлета прадпрыемства паставіла ў Германію 60 тон сухога малака, да адпраўкі рыхтуецца яшчэ 100 тон.

За першае паўгоддзе 2004 года "Брэсцкі малочны камбінат" выпусціў прадуктаў на суму 61 мільярд рублёў. У лютым у продаж паступіла новая серыя абагачаных малочных прадуктаў пад таварным знакам "Формула здароўя", якая, як і ўжо раскручаны "Савушкін прадукт", знайшла свайго пакупніка.

"Мы ставім сваёй задачай штогод аднаўляць 30 працэнтаў найменняў вырабаў і 20 працэнтаў абсталявання, гэта звычайная сусветная практыка, — сказаў дырэктар камбіната. — Вельмі вялікі аб'ём таго, што мы выпускаем, ідзе на экспарт, мы пастаўляем сваю прадукцыю ў Калінінград, Санкт-Пецярбург, Смаленск, ідуць перамовы з Бранскам. Цяпер робім усё, каб атрымаць нумарны знак ЕС і выйсці на заходні рынак".

**Ларыса ШЫГАНАВА.**

## Смаргонскі цеплагенератар

На Смаргонскім заводзе аптычнага станкабудавання завяршаецца работа па ўдасканаленні мадэлі беларускага цеплагенератара, які працуе на цвёрдым паліве. 5 адзінак новага агрэгата, які будзе працаваць толькі на дровах, ужо на выхадзе з заводскіх цахоў.

Як паведаміў БелаПАН галоўны інжынер прадпрыемства Ілья Шыкінаў, зварот завода да распрацоўкі цеплагенератараў тлумачыцца іх недахопам на айчынным рынку. Імпартныя ўзоры дарагія і ў большасці выпадкаў працуюць толькі на вадкім і газавым паліве. А беларускія шмат у чым недасканалыя.

Прадукцыю прадпрыемства з нецярпеннем чакаюць як у сельскай мясцовасці, так і ў гарадах. У першым выпадку для перааснашчэння ўсёй зернеачышчальна-сушыльнай гаспадаркі, якая працавала на польскіх і нямецкіх комплексах. У другім — для абагравання майстэрняў і вытворчых памяшканняў.

Прыблізны кошт смаргонскага цеплагенератара — 45 мільёнаў беларускіх рублёў.

## 50 новых камбайнаў

Больш за 50 новых камбайнаў будуць працаваць сёлета на ўборцы ўраджаю ў Гродзенскай вобласці. Згодна з рашэннем урада і пры садзейнічанні аблвыканкама за кошт крэдытаў Беларусбанка ў гаспадаркі вобласці паступіла 10 камбайнаў КЗР-10; яшчэ 12 будзе дастаўлена ў найбліжэйшы час.

15 зерняўборачных машын вытворчасці "Гомсельмаш" сельгаскааператывы набылі па лізінгу праз "Белаграсэрвіс", яшчэ 16 — куплены пры фінансавай падтрымцы на рэспубліканскім узроўні і будуць размеркаваны па ўсіх раёнах вобласці.

**Аляксандр ХІЛІМОН.**

## Цераз аўтаматычны сейф

Саветам дырэктараў галоўнай банкаўскай установы краіны зацверджана Інструкцыя па арганізацыі прыёму грашовай выручкі Нацыянальным банкам Беларусі цераз аўтаматычны сейф.

Такія захады робяцца з мэтай бесперапыннага кругласутачнага абслугоўвання кліентаў па прыёме ад іх грашовай выручкі без непасрэднага ўдзелу персаналу цэнтральнага банка.

У зацверджанай Інструкцыі таксама выкладзены парадак прыёму грашовай выручкі, парадак яе ўліку і пераліку.

**Аляксей АРЭШКА.**

## Яшчэ 7 мільёнаў шпрыцаў

У лістападзе гэтага года ААТ "Гомельпласт" плануе адкрыць сучасны ўчастак па вытворчасці высакаякасных аднаразовых пластыкавых шпрыцаў. Па рашэнні ўрада для завяршэння ўсіх работ па рэканструкцыі ўчастка медыцынскіх палімераў прадпрыемства атрымае банкаўскі крэдыт у памеры 4,6 млрд. рублёў.

Выдзеленыя сродкі плануецца накіраваць на закупку неабходнага абсталявання і на завяршэнне будаўнічых работ у памяшканні. Магутнасць новых ліній складзе 5 млн. штук шпрыцаў па 5 мілілітраў і 2 млн. штук па 2 мілілітры штомесяц. У першым паўгоддзі гэтага года ААТ "Гомельпласт" выпусціла 31,6 млн. аднаразовых шпрыцаў.

**Алена ПАСКАННАЯ.**

РАССЛЕДОВАНИЕ

# Кто и зачем закупил столько российских карамели и печенья?

*На сайте Министерства иностранных дел помещено уведомление о начале расследования, предшествующего введению специальных защитных мер в отношении импорта кондитерских изделий на таможенную территорию Республики Беларусь*

В нем говорится, что в соответствии с Законом Республики Беларусь "О мерах по защите экономических интересов Республики Беларусь при осуществлении внешней торговли товарами" постановлением Совета Министров Республики Беларусь от 5 июня 2000 г. №800 "О порядке проведения расследования, предшествующего введению специальных защитных, антидемпинговых или компенсационных мер" в целях создания равных конкурентных условий на внутреннем рынке и поддержки национальных производителей Министерство иностранных дел Республики Беларусь начало расследование, предшествующее введению специальных защитных мер в отношении импорта на таможенную территорию Республики Беларусь кондитерских изделий.

Оно проводится на основании заявления Концерна "Белгоспищепром" от имени отрасли белорусской экономики. В состав концерна "Белгоспищепром" входят производители, доля которых в общем объеме производства карамели в стране составляет 99,9 процента, в производстве печенья — 87,6 процента, в производстве шоколада — 44,1 процента. Заявление о начале расследования в отношении изделий из шоколада поддержано Иностранным унитарным частным производственно-торговым предприятием "Сладушка", доля которого в общем объеме производства шоколада в стране составляет 17 процентов.

Данные, приведенные в заявлении, позволяют констатировать факт возросшего импорта и свидетельствуют о наличии существенного ущерба отрасли белорусской экономики, говорится далее в сообщении. Так, объем импорта карамели в 2003 году составил 2 тыс. тонн на сумму 3,7 млн. долларов США и увеличился на 97 процентов по сравнению с объемом импорта за 2001 год. Доля импортной карамели на белорусском рынке выросла с 7,9 процента в 2001 году до 17,1 процента в 2003 году. Объем импорта шоколада и шоколадных изделий в 2003 году составил 10,4 тыс. тонн и увеличился на 96 процентов по сравнению с объемом импорта за 2001 год. Удельный вес импортного шоколада на внутреннем рынке вырос с 71,6 процента в 2001 году до 80,6 процента в 2003 году. Объем импорта печенья в 2003 году составил 15,7 тыс. тонн на сумму 19,1 млн. долларов и по сравнению с 2001 годом увеличился на 387 процентов. Доля импортного печенья на внутреннем рынке страны выросла с 23,1 процента в 2001 году до 51,6 процента в 2003 году.

Основными экспортерами карамели, шоколада, шоколадных изделий и печенья в Республику Беларусь являются производители Российской Федерации и Украины.

В связи с этим с 2001 по 2003 год белорусскому производителю нанесен значительный ущерб, выразившийся в сокращении объема производства карамели на 15 процентов и реализации продукции на внутреннем рынке на 15 процентов. Товарные запасы выросли на 180 процентов. Использование производственных мощностей упало по сравнению с уровнем 2001 года на 12 процентов и в 2003 году составило 99,6 процента. С 2001 по 2003 год объем производства шоколада и шоколадных изделий возрос на 18 процентов, в то же время потребление товара на внутреннем рынке увеличилось за аналогичный период на 74 процента. Товарные запасы выросли на 113 процентов. С 2001 по 2003 год объем производства печенья сократился на 14 процентов, реализация продукции на внутреннем рынке — на 40 процентов при общем росте потребления печенья на внутреннем рынке на 48 процентов. Товарные запасы возросли на 34 процента. Использование производственных мощностей в 2003 году составило 94 процента от уровня 2001 года и 83,5 процента производственных мощностей в целом.

**Подготовил к печати Евгений ТАВГЕНЬ.**

ЗЕРКАЛО

*В июне 2004 г. НИСЭПИ провел очередной национальный опрос общественного мнения (методом face-to-face interview опрошено 1508 человек в возрасте 18 лет и старше, предельная ошибка репрезентативности не превышала 0,03). Предлагаем вам некоторые наиболее интересные результаты. НИСЭПИ не несет ответственности за интерпретацию своих материалов.*

# Большинство белорусов против «контрактизации всей страны»

Как показывают данные табл. 1, более половины избирателей (55,1%) отрицательно относятся к массовому переводу работников государственной сферы на краткосрочные трудовые контракты, в принудительном порядке осуществляемому в последнее время. Лишь 13,7% респондентов одобрили эти меры, ликвидирующие право трудящихся работать по договорам на неопределенный срок, завоеванное в многолетней классовой борьбе. Среди первых больше противников А. Лукашенко, молодых и более образованных, работающих по найму на государственных предприятиях, жителей крупных городов. Среди вторых — больше сторонников А. Лукашенко, пенсионеров, пожилых и менее образованных, жителей малых городов и села, а также руководителей предприятий.

**Таблица 1. Распределение ответов на вопрос "Как Вы относитесь к массовому принудительному переводу работников государственных предприятий и организаций на краткосрочные трудовые контракты, который осуществляется в последнее время?"**

| Вариант ответа | % |
|---|---|
| Отрицательно | 55,1 |
| Безразлично | 19,1 |
| Положительно | 13,7 |
| ЗО/НО | 12,1 |

В связи с проблемой всеобщей "контрактизации" заслуживает удивления позиция профсоюзов, входящих в ФПБ, которые не проявили практически никакой активности по защите трудовых прав своих членов при таком масштабном их нарушении. Видимо, не зря сегодня этим профсоюзам население скорее не доверяет, чем доверяет (39% против 31%). Кстати, у свободных и независимых профсоюзов, которые активно выступают против таких контрактов, уровень доверия заметно выше.

**НИСЭПИ.**

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА

# Аграрный сектор: успехи или провал?

**Иван НИКИТЧЕНКО, профессор, член-корреспондент НАН Беларуси**

Завершился 10-летний период деятельности нынешнего руководства государства, и можно подвести его итоги. В общем очевидно, что аграрная политика, проводимая в этот период, оказалась губительной для сельского хозяйства.

Посмотрим некоторые данные официальной статистики по растениеводству.

| | 1994 г. | 2003 г. | 2003 г. в % к 1994 г. |
|---|---|---|---|
| Общая посевная площадь, тыс. га | 6134 | 5655,7 | 92,2 |
| в т.ч. зерновых и бобовых, тыс. га | 2720 | 2109 | 77,5 |
| Валовой сбор зерна, тыс. тонн | 6095 | 5448,8 | 89,4 |
| Картофель, валовой сбор, тыс.тонн | 8241 | 8649 | 105 |
| в т.ч. сельхозпредприятия, тыс.тонн | 1201 | 786 | 65,4 |
| индивидуальный сектор, тыс.тонн | 7070 | 7863,4 | 111,7 |
| Лён, общая площадь, тыс.га | 83 | 71,6 | 86,3 |
| Валовой сбор, тыс. тонн | 48,7 | 41,3 | 84,8 |

Аналогичная ситуация, за исключением сахарной свеклы, и по остальным культурам. Комментарии, как говорится, излишни.

Возьмем вторую отрасль сельского хозяйства — животноводство.

| | 1994 г. | 2003 г. (на конец года) | 2003 г. в % к 1994 г. |
|---|---|---|---|
| Реализация скота на убой, тыс.тонн | 883,7 | 694,3 | 78,6 |
| Производство молока, тыс.тонн | 3525,5 | 3036 | 86,1 |
| Реализация молока, тыс.тонн | 323,1 | 2317,7 | 71,7 |
| Производство яиц, млн. шт. | 1933,2 | 1573,3 | 81,4 |
| Численность скота, тыс. голов | | | |
| крупный рогатый скот | 4551,8 | 3376,8 | 74,2 |
| в т.ч. коровы | 1439,2 | 1192,6 | 82,9 |
| свиньи | 2380 | 2181,7 | 91,7 |
| овцы | 56,3 | 5,0 | 8,9 |
| лошади | 155,9 | 77,6 | 49,8 |

Здесь тоже полный провал. Резко ухудшилась материально-техническая база отрасли.

| | 1994 г. | 2003 г. (на конец года) | 2003 г. в % к 1994 г. |
|---|---|---|---|
| Тракторы, тыс. шт. | 105 | 63,6 | 60,6 |
| Грузовые автомобили, тыс.шт. | 66,3 | 35,5 | 53,5 |
| Комбайны, тыс. шт | | | |
| Зерноуборочные | 26,8 | 13,1 | 48,9 |
| Кормоуборочные | 9,9 | 5,5 | 55,5 |
| Кортофелеуборочные | 8,6 | 2,2 | 25,6 |
| Льноуборочные | 4,2 | 1,2 | 28,6 |
| Свеклоуборочные | 1,9 | 0,8 | 42,1 |

Следует учесть, что из указанного количества техники, исправной числится около половины. Поступление же новой техники мизерное. Например, в 2003 году куплено хозяйствами лишь 1297 тракторов, 296 грузовых автомобилей, 773 зерноуборочных комбайна, 97 кормоуборочных. Имеющаяся техника не может работать на полную мощность из-за постоянной нехватки горюче-смазочных материалов, запчастей и т.д.

Такая "эффективная" производственная деятельность не могла не отразиться на финансовом состоянии хозяйств. По данным экспертных оценок, кредиторская задолженность сельскохозяйственных предприятий составляет порядка 2 трлн. белорусских рублей. Естественно, что при нынешнем состоянии дел вернуть эти долги сельское хозяйство не в состоянии, даже если продать его все "с молотка". По официальной статистике, около 60 процентов хозяйств убыточны, порядка 20 процентов — малорентабельны. Остальные борются за выживание. По всей стране можно насчитать лишь десяток-другой сельхозпредприятий, у которых дела идут, можно сказать, неплохо.

Не могу сказать, что руководство не видело такой тенденции. Видело и предпринимало попытки спасти положение. Но все они базировались на старом советском опыте голого администрирования, когда разваливщиеся хозяйства присоединяли к более крепким, колхозы превращали в совхозы и садили их на шею государству. В итоге вроде бы картина нивелировалась, хотя большого сдвига в лучшую сторону не было.

Недавно появился указ о продаже убыточных сельхозпредприятий всем, кто может их купить. Но желающие добровольно это сделать вряд ли найдутся. Думаю, даже под сильнейшим административным давлением этот вариант окажется очередной дорогой в тупик и еще раз продемонстрирует несостоятельность нынешней государственной аграрной политики.

Оппозицией неоднократно указывалось на ошибочность избранного пути хозяйствования. С целью привлечения международного опыта в 1996 году была проведена специальная конференция по проблеме реформирования сельского хозяйства в постсоциалистических странах с участием представителей России, Украины, Чехии, Словакии, Польши, Литвы и Эстонии. На ней присутствовали представители органов государственного управления (Минсельхозпрода, Минэкономики, Нацбанка и других). Материалы с рекомендациями были направлены в Администрацию президента, правительство, соответствующие органы управления на республиканском и областном уровнях. Но реакции на них не последовало.

С целью спасения промышленного животноводства, которым славилась Беларусь в советские времена, был предложен вариант реформирования в новых экономических условиях свиноводческой отрасли Минской области. Предлагалось создать холдинг с участием всех сельхозпредприятий, имеющих промышленные комплексы, с включением в него комбикормового завода, мясокомбината, российских фирм-поставщиков зерна и... банка. Это позволило бы восстановить производство свинины на уровне 1990 года, повысить рентабельность производства до 15—25 процентов. Находился и надежный потребитель экспортной части продукции. Руководство области, руководители всех хозяйств, российских фирм, Минэкономики поддержали это предложение. Но оно не получило поддержки в Администрации президента, и процесс остановился.

По инициативе ОБСЕ группой независимых экспертов в 1999 году была разработана комплексная программа вывода из затяжного кризиса всей экономики государства, в том числе и сельского хозяйства, под общим названием "Стратегия для Беларуси". Она была разослана во все руководящие инстанции страны и областей. В начале 2000 года рекомендации были рассмотрены и одобрены международной конференцией, проведенной с участием ведущих ученых Беларуси, зарубежных специалистов, работников госаппарата, ряда ведомств. Но и по этому документу никакой реакции не последовало.

Основная причина этого, на мой взгляд, — невосприятие руководством государства частной собственности на средства производства, включая землю, непризнание объективно действующих законов рыночной экономики, стремление до последнего сохранить командно-административную систему управления, паническая боязнь появления хозяина на земле.

В то же время опыт наших соседей, цивилизованных стран мира говорит о том, что только хозяин сможет наладить нормальное, рациональное производство при создании соответствующих условий. Даже наш очень скромный опыт убедительно подтверждает это. Обратите внимание на первую таблицу. Ведь весь или почти весь прирост производства картофеля и овощей дал индивидуальный сектор, в распоряжении которого находится только 18 процентов пахотных угодий. Здесь выращено почти 90 процентов картофеля, более 84% овощей. Частный сектор произвел более 60% молока, свыше половины мяса и яиц. Тем самым он дал четкий ответ на вопрос демагогов: кто накормит народ?

Ключевой вопрос ее — собственность на землю. Пора прекратить демагогию вокруг этой проблемы. Нужно как можно быстрее восстановить право частной собственности на землю в полном объеме, включая право владения, пользования и распоряжения. Земля должна иметь настоящего хозяина, и ее нужно вернуть крестьянину, у которого она была отторгнута насильно без всякого выкупа. Как ею пользоваться и распорядиться, он должен решить сам в рамках действующего законодательства. Пакет проектов законов, включая закон о собственности на землю, Земельный кодекс и другие уже давно разработан Ассоциацией содействия экономическому развитию и представлен во все соответствующие инстанции.

Несостоятельны и опасения нецелевого использования земли. Нормальный налог на землю не позволит сделать это. Не найдется человека, который бы платил налог, не получая никакого дохода с земли.

Еще менее обоснованны опасения, что у нас не найдется столько людей, чтобы ее обработать. Сегодня по статистике в сельском хозяйстве занято около 18 процентов населения, в развитых странах — не более 5 процентов. При введении института частной собственности такая же ситуация будет и в Беларуси.

Земельная реформа потянет за собой решение и других злободневных проблем: реформу государственного управления, местного самоуправления и даже кредитно-финансовой системы. Но на проведение таких реформ требуется ответственное политическое решение, на которое нынешнее руководство, как показал 10-летний опыт, не способно. В цивилизованных странах принят единственный выход в этом случае — добровольная отставка, а не стремление переизбраться на новый срок, что грозит стране и народу очередными бедствиями и лишениями.

# За што пакрыўдзіўся і на што здольны МАЗ?

## Мінскі аўтамабільны завод адхіляе абвінавачанні ў нядздольнасці прадпрыемства забяспечыць айчынных перавозчыкаў канкурэнтаздольнымі машынамі

Як адзначаецца ў прэс-рэлізе цэнтра грамадскіх сувязяў МАЗа, за апошні месяц у шэрагу сродкаў масавай інфармацыі з'явіліся вельмі падобныя па змесце матэрыялы, якія падрываюць дзелавую рэпутацыю Мінскага аўтамабільнага завода. Аўтары названых матэрыялаў абвінавачваюць МАЗ у імкненні да манапалізму і ў нядздольнасці выпусціць неабходную колькасць сучасных транспартных сродкаў для беларускіх міжнародных перавозчыкаў.

Як адзначаецца ў паведамленні, апошнім часам склалася спрыяльная для вытворцаў грузавой аўтамабільнай тэхнікі кан'юнктура на шэрагу рынкаў, дзе пазіцыі МАЗа традыцыйна моцныя, перадусім на рынку Расійскай Федэрацыі. Гэта прывяло да значнага і стабільнага росту колькасці заказаў на ўсе мадэлі грузавых аўтамабіляў МАЗ. Больш за тое, маркетолагі прадпрыемства прагназуюць яшчэ адзін усплёск попыту ў апошнім квартале гэтага года, калі агульныя эканамічныя ўмовы істотна не зменяцца з нейкіх прычын.

Усё гэта прыводзіць да таго, што прадпрыемства заключае кантракты з дылерамі і наўпрост са спажыўцамі з тэрмінамі адгрузкі праз 1,5—2 месяцы. Названыя тэрміны выканання заказаў з'яўляюцца звычайнымі для практычна ўсіх аўтамабільных заводаў свету, сцвярджаецца ў паведамленні МАЗа. Прадпрыемствы маюць магчымасць загадзей спланаваць вытворчасць, забеспячэнне, фінансы, а значыць, рытмічна і напружана працаваць. У канчатковым выніку гэта прыводзіць да больш поўнага задавальнення запытаў заказчыка.

Разам з тым, адзначаецца ў прэс-рэлізе, беларускія міжнародныя перавозчыкі на сёння ў сваіх адносінах з МАЗам знаходзяцца ў прывілеяваным становішчы. У адрозненне ад астатніх спажыўцоў, па іх заказах аўтацягнікі, якія адпавядаюць нормам Еўра-3, могуць быць адгружаны неадкладна пасля аплаты кантрактаў.

Усе заказы ад членаў Беларускай асацыяцыі міжнародных аўтамабільных перавозчыкаў выкананы. За 6 месяцаў 2004 года беларускія міжнародныя перавозчыкі заказалі і атрымалі на Мінскім аўтамабільным заводзе 52 седлавыя цягачы МАЗ узроўню Еўра-3. Яшчэ пяць машын знаходзяцца ў вытворчасці. На складзе гатовай прадукцыі знаходзіцца на дзень выхаду прэс-рэліза яшчэ 14 такіх жа аўтамабіляў і 19 паўпрычэпаў апошняй мадэлі з імпартнымі восямі. "Гэта азначае, што пры паступленні заказу ад міжнароднага перавозчыка заказ сёння будзе выкананы неадкладна", — падкрэсліваецца ў паведамленні ЦГС МАЗа.

Калі з нейкіх прычын перавозчыку захочацца набыць для міжнародных перавозак яшчэ больш "еўрапейскі" аўтамабіль іншай маркі, СП ЗАТ "МАЗ-МАН" прапануе яму асартымент сваёй прадукцыі. Яно рэалізавала беларускім перавозчыкам за першае паўгоддзе 2004 года 132 аўтамабілі ўзроўню Еўра-3. Тэрмін выканання заказу на сёння — два тыдні.

На МАЗе адзначаюць, што ў Беларусі не існуе ніякіх забарон на куплю замежных грузавікоў, а на ўвоз новага сучаснага грузавіка збіраецца мытная пошліна ў памеры 5 працэнтаў. У астатніх краінах, якія нават не маюць уласнага аўтамабілебудавання, — ад 15 да 100 працэнтаў. У Еўрасаюзе такія машыны абкладаюцца пошлінай у 20—22 працэнты.

**Аляксей АРЭШКА.**

## Запруда на шляху піўной плыні

Супрацоўнікі Наваполацкага ўпраўлення Дэпартамента фінансавых расследаванняў спынілі на шляху з Санкт-Пецярбурга ў Мінск цяжкавагавы транспарт з півам "Балтыка" і, выявіўшы непарадак у суправаджальных дакументах, арыштавалі груз коштам у 27 мільёнаў рублёў.

Затрыманне піцерскага піва — не першая эфектыўная аперацыя наваполацкіх фінансавых сышчыкаў. На іх рахунку — крымінальная справа, узбуджаная нядаўна супраць бухгалтара мясцовай фірмы за падробку дакументаў, пошук і зварот мінскаму прадпрымальніку згубленых ім справаздачных папер ды іншыя нягучныя, але карысныя справы.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## Прад'яўлены штрафныя санкцыі

Больш за 60 мільёнаў рублёў штрафных санкцый прад'явіў Камітэт дзяржаўнага кантролю (КДК) Мазырскаму камбінату па вытворчасці медыцынскай прадукцыі і прадукцыі з утрыманнем спірту "Этанол". Як паведамілі БелаПАН у дэпартаменце фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржкантролю па Гомельскай вобласці, падчас праверкі дзейнасці камбіната ўстаноўлены шматлікія парушэнні фінансава-гаспадарчай дысцыпліны.

У прыватнасці, па выніках першага квартала гандлёвыя філіялы "Этанола" у Мінску, Гомелі, Смаргоні дапусцілі страты ў памеры 160,4 млн. рублёў.

**Алена ПАСКАННАЯ.**

## Урад зацвердзіў праграму дзяржаўнай падтрымкі малога прадпрымальніцтва на 2004 год

Дакумент накіраваны на павышэнне іміджу малога прадпрымальніцтва, фарміраванне спрыяльных умоў для развіцця прыватнага сектара. Праграма прадугледжвае меры па дзяржаўным стымуляванні прадпрымальніцкай дзейнасці. У прыватнасці, плануецца ўдасканаліць нарматыўна-прававую базу — унесці змяненні ў закон "Аб дзяржаўнай падтрымцы прадпрымальніцтва". Дакумент прадугледжвае таксама развіццё сістэмы фінансава-крэдытнай падтрымкі — выпрацоўку механізмаў кампенсацыі расходаў па выплаце працэнтаў па крэдытах, лізінгавых плацяжах, расходаў на ўдзел у выставах і кірмашах.

Акрамя таго, праграма ўтрымлівае рэкамендацыі па ўдасканаленні дзейнасці суб'ектаў інфраструктурнай падтрымкі малога прадпрымальніцтва, інфармацыйным забеспячэнні малых прадпрыемстваў, а таксама актывізацыі ўзаемадзеяння з грамадскімі арганізацыямі прадпрымальнікаў, пашырэнне міжнароднага супрацоўніцтва.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

# «Трэба рызыкаваць...»

*(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.)*

Узніклі "цыратныя" праблемы. Скульптары спадзяваліся, што тут будзе ў іх поўны сервіс, і ніякіх плёнак, каб прыкрыць касцюм нябожчыка, з сабою не прывезлі. На шчасце, у мяне ў кішэні плашча аказалася прыстойных памераў сумка, і Міхась знайшоў нешта накшталт гэтага ў сваім "дыпламаце", і Вакар прынёс з машыны нейкі цэлафан. Сімпатычны Імбра нават не паспеў заўважыць, што мы разгублена і ліхаманкава рашаем нечаканую праблему: ён без усялякае затрымкі прыступіў да справы. Найлепшым асістэнтам яму сярод нас трох быў Міхась.

Неўзабаве ўсе мы з невыказным хваляваннем, з глыбокім рэлігійным пачуццём дакрануліся да першай пасмяротнай выявы найвялікшага для ўсіх нас у дадзеную хвіліну сына пакутлівай нашай Айчыны.

Рыгор Паўлавіч Імбра любоўна загортваў свой выдатны твор, а мы з любоўю і ўдзячнасцю глядзелі цяпер на яго, імкнуліся хоць чым-небудзь памагчы яму і тут. Імбра адразу звярнуўся да мяне з пытаннямі наконт далейшага лёсу маскі: "Колькі будзем заказваць экземпляраў? З кім трымаць сувязь?" і г.д. У адказ я ўручыў яму сваю візітную картку, падумаўшы, што цяпер нам, мабыць, трэба прыняць захады, каб легалізаваць свой пачын, бо гэта было б лепш для агульнае справы: маска пайшла б не інкогніта, а афіцыйна туды, дзе ёй і належыць быць. Трымаць нам з Міхасём на яе манаполію, значыць, абмежаваць яе функцыянальнасць. Ды і абодва мы не адрозніваемся такімі якасцямі. Мы будзем шчаслівыя, што не ўпусцілі момант, каб нешта дадаць да цяпер ужо Караткевічаяны (трэба пашукаць тэрмін!), да Караткевічазнаўства.

Калі крыху спала ў нас узрушэнне ад здзейсненага, я напомніў пра злепак з кісці правае рукі. Але ўсе прыйшлі да высновы, што цяжка будзе ажыццявіць гэта, каб не пакінуць слядоў на касцюме. Ды і наша напружанне нервовае не спрыяе гэтаму. Адмовіліся, з вялікім жалем.

Зноў праблема! А кожная новая праблема заўсёды здаецца цяжэйшай ад папярэдніх. Хоць наша новая, калі на добры лад, не павінна б быць такой ужо складанай.

У чым справа? Трэба адмыць твар і валасы нябожчыка ад вазеліну і гіпсу, а ў кранах не аказалася цёплае вады. Каб прадбачылі гэта, вядома, прывезлі б з сабою. Але ж мы ведалі, што хоць "нелегальна", а ўсё ж у лячэбную ўстанову едзем. Ды яшчэ ў *лечкамісію!* Вырашылі шукаць санітарку, якіх тут значна больш, чым у звычайных бальніцах. Без панікі, смела, я падаўся ў тую самую прахадную. Тут ужо новы вартаўнік, мужчына. Кажу, што мне трэба, прашу дапамогі. А ён... Божа мой! Груба, як і яго папярэдніца, выставіў мяне са сваёй будкі з маім такім свяшчэнным клопатам. Выкрыкнуў, што ў 9 гадзін будзе там санітарка, што няма чаго сваімі ўсякімі глупствамі (!!!) надакучаць людзям (?), значыць, яму.

Бягу ў так званы новы корпус. Звяртаюся да дзяжурных (іх там ва ўтульным кабінеце сядзела некалькі). Яны адказалі, што іх ніхто не паслухае, "звярніцеся да галоўнага ўрача (!), ён ужо тут. Яго, канешне, паслухаюць". Паказалі кабінет. Іду. Сустрэў мяне ветліва, з поўным разуменнем. Адразу падняўся з крэсла і пайшоў якраз туды, адкуль я толькі што прыйшоў. Перад дзвярыма гэтага кабінета ўбачыў жанчыну ў белым халаце і сказаў ёй, паказаўшы на мяне: "Зрабіце ўсё, што ім трэба", а сам пайшоў назад. Лісліва выкладаю сваёй "дабрадзейцы" свой клопат. У адказ чую: "Не пайду! І ніхто мяне не прымусіць! Я ў трупярні не служу. Там павінны быць свае санітаркі".

Да галоўурача, якога так "слухаюць" санітаркі, я больш не пайшоў. Рашыў ісці ўжо ў стары корпус і шукаць там некага. Вешаю ў гардэробнай плашч і заадно кажу гардэробшчыцам пра сваё гора. Яны параілі схадзіць на 4-ты паверх "у вушны кабінет" і звярнуцца да Валянціны Макараўны. "Яна зробіць. Яна гэта ўмее і любіць".

Падняўся туды. Зайшоў у кабінет з шыльдаю "Отоларинголог". Звярнуўся да дзвюх жанчын, што тут былі і, нарэшце, пачуў ад адной з іх, відаць, Валянціны Макараўны, людскае слова: "Паможам, абавязкова паможам, зараз прыйду". Шчаслівы вяртаюся ў трупярню.

На гадзінніку ўжо 8.30. Мне трэба ў выдавецтва. Кажу Міхасю, што мушу ехаць, што санітарцы трэба заплаціць. Даў яму 5 рублёў для гэтай мэты, хоць ён сказаў, што знайшоў бы, можа, і ў сябе такую суму.

Неўзабаве прыйшла Валянціна Макараўна і прынялася за справу. У гэты час на парозе з'явілася маладая жанчына з добра дагледжанай галавою, увенчанай пышнай шапкаю светлых валасоў. Па ўсім відаць, што гаспадыня тутэйшая. Мабыць, яна ведае, хто гэты адзіны "кліент" у яе жахлівай гаспадаркі, магла б хоць дзеля формы сказаць нам нешта накшталт спачування ці ацэнкі дзейнасці нябожчыка. Але ж яна выказалася інакш. Замест прывітання пачала адразу наракаць, што вось, маўляў, учора падлога тут была чыстая, а цяпер чамусьці ў нейкіх белых плямах. А гэтых плямаў было 3—4, не болей, на якіх-небудзь 20 квадратных сантыметраў! Мы прамаўчалі, ведаючы, што не пакінем іх пасля сябе, тым больш, што маем ужо і "сваю" санітарку.

Дачакаўшыся мужа Наталлі Сямёнаўны — Івана Мікалаевіча і іх зяця Васіля, я пайшоў на аўтобус, шчаслівы, што не дарэмна правёў учарашнія паўдня, затым ноч і гэтую раніцу, удзячны Міхасю за яго такую бліскучую ідэю, канчаткова ўлюбёны ў яго за ягоную высакародную аддана сць Уладзіміру Караткевічу, што раўназначна высокай, шчымлівай нацыянальнай самасвядомасці.

У гэты ж дзень зрабіў спробу легалізацыі нашага з Міхасём учынку. У прысутнасці Васіля Быкава я сказаў Нілу Гілевічу, старшыні пахавальнае камісіі, што маска з Караткевіча зроблена. Ён не надта быў узрадаваны гэтым, сказаў, што не любіць "гэтых халодных, застылых выяў, ды яшчэ з нябожчыкаў". На маё красамоўства наконт важнасці і патрэбнасці яе ўсім нам, гісторыі літаратуры, ён коратка адказаў: "Не-не, я ж не адмаўляю значэння такіх злепкаў. Проста я сам іх не люблю".

Канчатковую "легалізацыю", падумаў я, трэба будзе ўзняць пазней. Бо й праўда, цяпер не той выпадак, каб гэта рашаць і тым больш вырашыць канчаткова.

**28 ліпеня.** Уласна кажучы, можна лічыць гэты запіс і 27-м ліпеня, бо працягваю, не спыняючыся, адзін і той самы запіс. Палова пятай гадзіны раніцы. Не сплю, хоць і ўчора сну не зведаў. Пасля могілак прыехаў дадому. Не ведаю за што ўзяцца, што рабіць. Пачынаецца эпоха без Караткевіча. У душы пустэча. Адчуваю, што яна да нейкага часу будзе разрастацца ўва мне. (Думаю, што не толькі ўва мне.) Потым звыкнемся (!) з гэтым пачуццём, неяк прытупіцца (!) яно, і ўсё ўвойдзе ў нейкую новую норму. Што гэта за норма, калі мераю яе не будзе Караткевіч! Не! Як гэта не будзе Ён мераю? Ён астанецца маім сумленнем, нашым сумленнем назаўсёды. Толькі не параішся ўжо з ім, не ўбачыш, не пачуеш яго, не адчуеш вялікае радасці, трымаючы новы ягоны Твор. І нічога і ніхто больш ужо не ў стане кампенсаваць нам гэтую страту! Божа, дай сілы вытрымаць такое, не надламацца душою, падтрымлівай ува мне агонь служэння сапраўднай Літаратуры, агонь служэння народу.

...Прыйшоў з трупярні ў выдавецтва. Саша яшчэ не паехаў за стужкаю. Напісаную мною і надрукаваную ўжо дагэтуль адносіну-заказ падпісаў за мяне Серафім Антонавіч.

У 10 гадзін трэба быць на пасяджэнні калегіі Камітэта. Кадэбіст Шчацінін, памочнік Дзяльца, не прыняў пад увагу маю з Серафімам немагчымасць там быць. Сказаў: "Хопіць і таго, што знялі ваша пытанне з абмеркавання. Абыдзецеся гадзінай прысутнасці на калегіі замест амаль цэлага дня".

Праседзелі там ледзь не дзве гадзіны. У выдавецтве калектыў нас ужо зачакаўся: дамаўляліся ў адзінаццаць усім пайсці Туды арганізавана. У кабінеце кадравічкі я застаў горы кветак на сталах — ружы, гваздзікі. Гэта мы закупілі яшчэ ўчора. Кветкі былі і ў руках некаторых супрацоўнікаў, прыдбаныя імі самімі. Вянок таксама з жывых кветак, белых і чырвоных гваздзікоў, хоць і казённым парадкам, у пахавальным бюро, заказваўся. Я загадаў, каб рабілі менавіта так, нягледзячы на цану. Стужка на вянку, якой мінчане яшчэ не бачылі, — не чорны сацін ці нават атлас з надпісам, зробленым зубным парашком ці бяліламі, а прыгожы беласнежны шоўк у дзве столкі з залацістымі махрамі па абодвух канцах, з залацістай вышыўкаю:

**"Вялікаму Сыну Беларусі Уладзіміру Караткевічу ад выдавецтва "Мастацкая літаратура".**

Некаторыя супрацоўнікі, у тым ліку і загадчыца рэдакцыі мастацкага афармлення (!), пыталі, ці бачыў дзе я такую стужку, ці сам дадумаўся. Мы, кажуць, не бачылі.

Што ж мне было адказаць на гэта? Сапраўды, яны не маглі такога бачыць, калі ў паўтарамільённым горадзе, на мала каму вядомай фабрыцы ёсць толькі адзіны спецыяліст, які можа гэта зрабіць. А ў яго распараджэнні — адзіная машынка, якая дзесяць літар вышывае цэлых тры гадзіны! Менавіта так сказаў мне сам дырэктар фабрыкі, адгаворваючы мяне ад сваёй задумы. "Ды і не рабілі мы ніколі гэтага, мы вышываем сцягі паводле даручэння Цэка і гаркома", — сказаў ён. Не арганізаваўшы такой вытворчасці, "сябры народа" не падтрымалі і ў народзе былое ўмельства. Што даражэй у дадзеным выпадку было б за ручную вышыўку? Альбо вышыўку машынную, але прыватную? Паспрабуй знайсці!

Я адказаў маім цікаўным, што ніколі не трэба абмяжоўвацца казённым, і што пратэст супраць кепскага казённага павінен быць канструктыўным, павінен нараджаць плённае жаданне зганьбіць яго лепшымі, сваімі ўзорамі.

А палове першай гадзіны дня мы, вялікаю групаю, прайшлі паўз дарагую ўсім нам труну і паклалі каля ног Вялікага Беларуса свае кветкі, невыказную сваю любоў да Яго, несуцешнае сваё гора. Наталля Сямёнаўна, убачыўшы мяне, прасіла сесці каля яе, там, дзе сядзяць нябожчыкавы родныя і блізкія. Я падзякаваў, але не сеў...

**29 ліпеня. Ул.Караткевіч**

[...]

8 гадзін 50 мінут — труна з целам нябожчыка перавезена ў Дом літаратара і ўстаноўлена ў канферэнц-зале, на сцэне.

Ад 10 гадзін — адкрыты доступ народа для развітання з лепшым са сваіх Сыноў.

14 гадзін — пачаўся жалобны мітынг. Зала перапоўнена. На сцэне, апрача сям'і і блізкіх нябожчыка, былі тыя, хто нёс апошнюю вахту каля яго труны: І.Я.Палякоў, Г.Г.Барташэвіч, А.Т.Кузьмін, Максім Танк, **Васіль Быкаў, Ніл Гілевіч,** Васіль Зуёнак, Генадзь Бураўкін, **Рыгор Барадулін, Леанід Гаўрылкін,** Ю.М.Міхневіч, М.І.Дзялец, **Я.М.Глушкевіч, М.М.Пташук.**

Мітынг вёў Ніл Гілевіч, выступілі (падкрэслены).

14 гадзін 40 мінут — вынас труны з Дома літаратараў. Жалобная працэсія.

14 гадзін 55 мінут — труна ўстаноўлена на аўтамабіль-катафалк. Жалобны картэж накіраваўся на Усходнія (Маскоўскія) могілкі.

15 гадзін 15 мінут — працэсія з труною на могілках да месца пахавання.

15 гадзін 27 мінут — устаноўка труны на моглічны катафалк. Развітанне. Слова Генадзя Бураўкіна.

15 гадзін 41 мінута — труна зачыняецца векам.

15 гадзін 42 мінуты — труна апушчана ў магілу.

15 гадзін 48 мінут — магіла засыпана зямлёю.

16 гадзін — на магіле складзены вянкі, кветкі. Развітанне з магілаю.

**Памінкі па Уладзіміру Караткевічу** (27.07.84.). Ніл Гілевіч — вёў. Выступілі: Алесь Адамовіч (двойчы), Сяргей Законнікаў (толькі ён быў ад...), Іван Шамякін, Валерый Мазынскі, галоўны рэжысёр тэатра імя Якуба Коласа, артыст гэтага тэатра прачытаў урывак з твораў Уладзіміра Караткевіча, Уладзімір Паўлаў ("паколькі няма дырэктара"), аднакурсніца У.Караткевіча. Выступалі яшчэ...

## «Славянскі базар»: рэкордная колькасць гасцей

*Закрыўся XIII Міжнародны фестываль мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску — 2004". Галоўным вынікам яго стала перамога беларускага спевака Пятра Ялфімава ў Міжнародным конкурсе маладых выканаўцаў эстраднай песні "Віцебск-2004". Усяго ў конкурсе бралі ўдзел 22 прадстаўнікі з 19 краін.*

На 12 фестывальных пляцоўках прайшло 75 відовішчных мерапрыемстваў (у 2003 годзе — 57 мерапрыемстваў). У перыяд правядзення фестывалю Віцебск наведала рэкордная колькасць гасцей і ўдзельнікаў: больш як 6 тысяч з 27 краін, у тым ліку з Беларусі, Балгарыі, Вялікабрытаніі, Германіі, Расіі, Грузіі, Даніі, Егіпта, Ізраіля, Казахстана, Украіны, Францыі, Чэхіі, ЗША.

На пляцоўцы Летняга амфітэатра прайшло 19 канцэртаў, якія ўбачылі больш за 90 тысяч гледачоў. У праграму былі ўключаны таксама Дні культуры Беларусі, Украіны і Расіі.

Упершыню ў праграму фестывалю быў уключаны міжнародны марш-парад духавых аркестраў і гала-канцэрт духавых аркестраў "Мір дому твайму" з удзелам лепшых аркестраў Беларусі, Расіі, Украіны, Вялікабрытаніі і Польшчы.

У рамках фестывалю гледачы змаглі ўбачыць пяць кінафільмаў рэжысёраў Украіны, Расіі і Беларусі, а таксама пяць тэатральных пастановак расійскіх і беларускіх рэжысёраў.

Агульная сума затрат на арганізацыю і правядзенне фестывалю мастацтваў склала звыш 1,6 млн. долараў ЗША, што на 300 тысяч долараў больш, чым было выдзелена ў 2003 годзе.

**Вольга АСІПЕНКА.**

ФУТБОЛ

## Мінскае «Дынама» вярнула сабе лідэрства

У перанесеным матчы 15-га тура падапечныя трэнера-гульца Юрыя Шуканава выйгралі на сваім полі ў віцебскага "Лакаматыва" з лікам 2:1 (Разін, 88, з пенальці, Шуканаў, 90 — Крыпак, 54).

Становішча каманд: "Дынама" (Мн) — 34 ачкі (пасля 14 гульняў), БАТЭ (Барысаў) — 32 (14), "Тарпеда" (Жодзіна) — 31 (14), "Гомель" — 27 (14), "Шахцёр" (Салігорск) — 27 (15), "Тарпеда-СКА" (Мінск) — 26 (15), "Славія" (Мазыр) — 22 (15), "Дынама" (Брэст) — 21 (15), "Нёман" (Гродна) — 20 (15), "Лакаматыў" — 18 (15), "Дарыда" (Ждановічы) — 17 (15), "Зорка-ВА-БДУ" — 15 (15), "Нафтан" (Наваполацк) — 13 (15), "Днепр-Трансмаш" (Магілёў) — 11 (15), МТЗ-РІПО (Мінск), "Белшына" (Бабруйск) — па 7 (15).

## Асечка «Гомеля»

Футбалісты клуба "Гомель" выбылі з барацьбы ў Лізе чэмпіёнаў. У матчы ў адказ першага кваліфікацыйнага раунда падапечныя Аляксандра Кузняцова выйгралі ў гасцях у албанскай "Тыраны" з лікам 1:0, аднак саступілі па выніках дзвюх сустрэч, паколькі тыдзень таму ў Гомелі прапусцілі два мячы без адказу.

29 ліпеня ў матчах у адказ першага кваліфікацыйнага раунда Кубка УЕФА барысаўскі БАТЭ згуляе ў Тбілісі з мясцовым "Дынама" (першы матч — 3:2 на карысць грузінскіх футбалістаў), а салігорскі "Шахцёр" у Мінску — з малдаўскім "Ністру" (першы матч — 1:1). 24 ліпеня ў матчы ў адказ трэцяга круга Кубка Інтэртота сталічнае "Дынама" згуляе дома з французскім "Лілем" (першы матч — 1:2).

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

# Крыжаванка «Мая Радзіма»

**Па гарызанталі:** 2.Уязное збудаванне ў замак, горад ці сядзібу. 5.Лістападнае дрэва з густой кронай і шэрай гладкай карой. 6.Адна з прафесій беларускіх майстроў, якія ў 1684 годзе аздаблівалі рэчы для харомаў Маскоўскага Крамля. 7.Народны пісьменнік Беларусі, аўтар аповесці "Аблава". 9.Возера ў Мядзельскім раёне. 13.Народны мастак Беларусі і СССР, аўтар помніка П.М.Машэраву. 14.Гаспадар беларускіх запаведнікаў. 15.Беларускі звычай рабіць справу гуртам. 17.Лодка, выдзеўбаная з дубовага ствала з дашчатымі бартамі. 19.Беларускі першадрукар. 21.Спелы хваёвы лес. 23.Лідэр беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, аўтар і рэдактар газеты "Мужыцкая праўда" для сялян. 26.Бандарная пасудзіна для даення. 27.Распаўсюджвальнік ведаў, гэтай дзейнасцю займаліся С.Будны, Ф.Скарына, М.Гусоўскі і г.д.

**Па вертыкалі:** 1.Дзяржаўны дзеяч Беларусі, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху ў гады Вялікай Айчыннай вайны, Герой Савецкага Саюза. 2.Уклад паўсядзённага жыцця. 3.Выраб для засцілання стала. 4.Наваколле вакол вёскі. 6.Рака на Палессі, правы прыток Прыпяці. 8.Прамысловая рыба атрада карпападобных, якая ва ўмовах Беларусі разводзіцца штучна. 10.Беларускі кампазітар і артыст эстрады, народны артыст Беларусі і СССР, заслужаны дзеяч культуры Польшчы. 11.Год па кітайскім календары, у якім нарадзіўся беларускі археолаг А.Г.Калечыц, аўтар працы "Першыя людзі на зямлі Беларусі". 12.Месяц каляндарнага года. 13. Рака на Беларусі, левы прыток Бярэзіны. 15.Старажытны горад Беларусі, цэнтр княства ў XI—XII стагоддзях. 16.Псеўданім беларускага паэта Ц.Крысько. 18.Сорт грушы народнай селекцыі, яна і Слуцкая, і Лошыцкая, і Залатая. 20.Участак рэчышча, размешчанага пераважна паміж перакатамі ў выгінах рэк. 22.Жанр лірычнага верша Я.Коласа "Краіна Саветаў". 24.Сярэбраная манета Рэчы Паспалітай, якая абарачалася на тэрыторыі Беларусі ў XVII—XVIII стст. 25.Аўтаматычна разгружальны карабль для пад'ёму руды па шахтавых ствалах.

**Склаў Мікола ШАРАВАР. г.Салігорск.**

## Адказы на дыяганальны крыжаслоў, надрукаваны ў №130

**Зверху ўніз улева:** 1.Недахоп. 2."Перапёлачка". 3.Іаан. 4."Ружы". 5.Нота.

**Зверху ўніз управа:** 1.Нара. 2.Плач. 3."Імжа". 4.Ратавальнік. 5.Носьбіт.

**Зверху ўніз па парадку:** 6.Дапытлівасць. 7.Стваральніца. 8.Халатнасць. 9.Статыстыка. 10.Цісканіна. 11.Піліпаўка. 12.Праломіна. 13.Прыкрасць. 14.Дрэздэнскі. 15.Бальзаміна. 16.Пачостка. 17.Тандэтны. 18.Акыш! 19.Каса. 20.Апанаванне. 21.Ізаляванне. 22.Дама. 23.Філіграсць. 24.Піларама. 25.Валадарка. 26.Капіталіна. 27.Сачавічнішча. 28.Падаправанне. 29.Самаразлік. 30.Катаванні. 31.Далягляд. 32.Палавінка. 33.Карп. 34.Акалічнасць. 35."Палольшчыцы". 36.Апанент. 37.Дыктант. 38.Асот. 39.Золь. 40.Конь. 41.Новы. 42.Боль. 43.Рыхт.

ЗАКУЛІССЕ

# Як запівалі «атлантаў»

**І пілі, і елі наведвальнікі клуба-рэстарана "Гудвін" на прэзентацыі першага максі-сінгла групы "Atlantika". А музыкі спявалі на замежнай мове і гралі на віртуальна-электронны лад.**

*"Мы не такія ціхія, як Ціхі акіян, не такія ўсходнія, як Індыйскі і не такія халодныя, як Паўночны Ледавіты. Мы — "Atlantika",* — так патлумачыў назву групы адзін з яе салістаў.

Не без задавальнення прадзюсер калектыву **Павел Бараноўскі** некалькі разоў пераказаў для публікі гісторыю, якая адбылася ў клубе напярэдадні прэзентацыі. Да аднаго з ахоўнікаў "Гудвіна" падышоў малады чалавек, які, убачыўшы афішу *"Atlantika"*, спытаўся: "А чаму не напісалі, з якой краіны гэта група?" Прадзюсер не хаваў задавальнення ад таго, што беларускую групу не адрозніваюць ад замежных выканаўцаў.

Аднак трактаваць гэты факт можна па-рознаму. Напрыклад, гэта можа сведчыць і пра тое, што група не мае *свайго* твару. Музыка — універсальны прадукт, які не трэба дзяліць на амерыканскі, еўрапейскі ці беларускі. Існуюць толькі характэрныя стылі і традыцыі. А электронная музыка нарадзілася і расцвіла на Захадзе. Падчас творчасць пачынаецца з падражання некаму. Вось група і захапілася працай пад вядомыя калектывы, з акцэнтам на *DEPECHE MODE* і шматлікіх іншых выканаўцаў. Таму пытанне "З якой краіны гэтая група?" асабіста я расцэньваю як трывожны сігнал.

Мяркуйце самі: група "Atlantika" ўжо даўно з'явілася ў эфіры амаль усіх радыёстанцый і на працягу амаль дзевяці месяцаў знаходзіцца на першых пазіцыях хіт-парадаў, у асноўным са сваёй першай даволі вядомай кампазіцыяй *"Behind The Destiny"*. Але, нягледзячы на гэта, яе нацыянальная прыналежнасць дагэтуль нявызначана! Калі група прэтэндуе на ролю першаадкрывальнікаў беларускай электроннай музыкі, тады трэба прапаноўваць нешта новае. Як гэта зрабіў прабацька нямецкай электроннай музыкі Клаус Шульц. Альбо раскручваць сябе, як DEPECHE MODE. Але для гэтага трэба мець стыль, а ў *"Atlantika"* вочы разбягаюцца ад заходніх настаўнікаў і магчымасці працаваць так, як ужо працуе нехта іншы.

Але першы блін, дакладней, дыск, не стаў камяком. Няхай некаторыя крывяць рот, але, як гаворыцца, час пакажа.

Трэба адзначыць, што фанатаў "атлантаў" у рэстаран "Гудвін" прыйшло шмат. І "атланты" расцвіталі ад увагі да сябе. І спявалі, як запэўнівалі прысутных, ужывую. Праўда, я так і не зразумела: як можна граць на сінтэзатары, на якім ляжаць кветкі?.. Але гэта, відаць, дробязі...

Алекс і ДзіМітр эпаціравалі публіку ў лепшых традыцыях замежных электронных выканаўцаў: сонечныя акуляры і скуранае адзенне; яны гаварылі заключнае слова, сыходзілі і... зноў вярталіся.

На мой погляд, прэм'ера адбылася. Цяпер групе засталося ўсяго нічога: утрымацца на беларускай эстрадзе і заваяваць Захад...

**Дар'я ГАЎРЫЛАВА.**

БЫВАЕТ И ТАКОЕ

## «Трамвай двух желаний»

Прокатиться с ветерком под кружку пива — именно эти удовольствия можно совместить в баре на рельсах. "Хмельной поезд" уже стал местной достопримечательностью японского города Нагасаки. Он выезжает из депо один раз в день ближе к вечеру. Идет без остановок, разве что притормозит немного, чтобы поприветствовать регулировщика.

Экскурсию по городу на нем могут совершить 24 пассажира. Единственный серьезный человек на этом празднике жизни - вагоновожатый. "Трамвай желаний" будет ходить по этому маршруту до седьмого августа. Все места на нем уже забронированы

ПРОИСШЕСТВИЕ

## Яд в вине

*В городе Судогда Владимирской области умерли 5 человек - все они отравились портвейном. Экспертиза установила, что напиток содержал этиленгликоль - токсичное вещество, один из компонентов антифризов.*

По данным ИТАР-ТАСС, в одной из семей от отравления умерли отец и сын. Поскольку местная больница невелика, 11 пострадавших срочно вывезли в реанимационные отделения других больниц: в Гусь-Хрустальный и во Владимир. И, как сообщила заведующая отделением интенсивной терапии Судогодской райбольницы Любовь Велова, только троих из них удалось привести в удовлетворительное состояние.

По информации начальника милиции общественной безопасности Судогодского УВД Виктора Соболева, ядовитое вино изготовлено и доставлено на склады Владимира из Кабардино-Балкарии. Сейчас принимаются экстренные меры по его изъятию из продажи.

**23**

**ліпень**

ПЯТНІЦА
Усх. 5.09 Зах. 21.23
Даўж. дня 16.14
Першая квадра
25 ліпеня

## Кіно пра Шагала здымуць у Віцебску

У Віцебск, на радзіму сусветна вядомага мастака Марка Шагала, прыехала з Парыжа здымачная група на чале з мастацтвазнаўцам, кінарэжысёрам і мастаком, дырэктарам Нацыянальнага цэнтра сучаснага мастацтва Францыі Аленам Флешэрам. Група будзе вывучаць "натуру" для маючых адбыцца здымак дакументальнага фільма пра віцебскую школу жывапісу, якая дала свету Марка Шагала.

## «Базар» не абышоўся без бяды

Нягледзячы на шчыльную канцэнтрацыю супрацоўнікаў органаў правапарадку і прэвентыўныя меры дарожнай бяспекі ў фестывальным Віцебску, чарговы "Славянскі базар" не абышоўся без транспартных здарэнняў.

Цудам засталіся жывымі 30-гадовая мясцовая жыхарка і яе двухгадовая дачка, якая знаходзілася ў дзіцячай калясцы.

Калі маладая мама з дзяўчынкай былі на пераходзе побач з плошчай Леніна, іх збіў аўтамабіль, што рухаўся з вялікай хуткасцю. Абедзве пацярпелыя з сур'ёзнымі траўмамі былі дастаўлены ў бальніцу. Факт наезду стаў нагодай для ўзбуджэння крымінальнай справы.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**



## Пятница, 23 июля

### БТ

**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 23.00** Новости.
**07.05, 08.50, 19.55** "Деловая жизнь".
**07.10 "Белые одежды".** Сериал.
**08.35** "Полвека Беларуси в ЮНЕСКО". Видеофильм АТН.
**09.10 "Спрут".** Сериал.
**10.20, 20.00 "Тайны следствия".** Сериал.
**11.10 Богатые и знаменитые".** Сериал.
**12.10** "Обычный герой. Владимир Карват". Видеофильм АТН.
**12.25 "Атланты и кариатиды".** Худ.фильм.
**14.10** "Все нормально, мама!".
**14.55** "100 шагов к Олимпу".
**15.15 "Динотопия-2".** Сериал.
**16.00 "Ни слова о футболе".** Киноповесть.
**17.10** "Звездный дождь".
**18.20 "Прощение".** Драма.
**21.00** "Панорама".
**21.50** "Специальный репортаж".
**22.00 "Ватель".** Мелодрама.

### ОНТ

**07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 18.00, 20.30, 23.05** "Наши новости".
**07.05** "Наше утро".
**09.05 "Клон".** Сериал.
**09.55** "Дом". Реалити-шоу.
**10.40** "Принцесса Сиси". Мультсериал.
**16.10 "Женщины в любви".** Сериал.
**17.05** "Русская рулетка".
**18.10** "Просто смех!"
**18.50** "Поле чудес".
**20.00** Время.
**21.05 "Смерч".** Триллер.
**23.20 "История с ожерельем".** Мелодрама.

### РОССИЯ

**07.45 "Бедная Настя".** Сериал.
**08.45 "Директория смерти".** Сериал.
**09.30 "Ха!"** Маленькие комедии.
**09.45** "Вести. Дежурная часть".
**10.00, 16.00, 19.00** "Вести".
**10.30, 19.30** "Местное время. Вести — Москва".
**10.50 "Марш Турецкого".** Сериал.
**16.10** "В поисках приключений".
**17.05** "Комната смеха".
**18.00 "Комиссар Рекс".** Сериал.
**19.50** "Спокойной ночи, малыши!".
**19.55** "Народный артист". Гала-концерт в Государственном Кремлевском дворце. Повтор финального шоу проекта..
**22.10 "Русская рулетка".** Детектив.
**23.50 "Безумный город".** Драма.

### ЛАД

**06.30** EURONEWS.
**08.00, 14.00, 20.00** Новости.
**08.10** "Мгновение вечности".
**08.30** "Другие танцы".
**08.35, 22.05 "Красное и черное".** Сериал.
**09.35** "Свет далекой звезды".
**10.05, 18.05** "Между нами, женщинами".
**10.25, 21.15 "Тайны Ниро Вульфа".** Сериал.
**11.15, 13.00** "Обычный необычный день".
**11.50 "Покушение на ГОЭЛРО".** Худ.фильм.
**13.30** "Песня волшебного камня", "Крот в зоопарке", "Моя дорогая маленькая планета". Мультфильмы.
**14.10** "Время кино".
**15.00** "Учительская".
**15.15** "Эх, анекдот, анекдот".
**15.30** "Именины". Телевизионный спектакль.
**16.55** "Валентин Елизарьев. Зеркало времени". Док.фильм.
**18.25 "Когда деревья были большими".** Мелодрама.
**20.15** "Колыбельная"
**20.30** "Дела семейные".

### НТВ

**09.00, 11.00, 16.00, 18.00** "Сегодня".
**09.25** "Фактор страха".
**10.20** "Страна советов".
**14.30** "Принцип домино". Ток-шоу.
**16.30** "Дикий мир: борьба за выживание".
**17.35** "Протокол. Расследование".
**18.40 "Робот-полицейский".** Боевик.
**20.55** "Российская империя".
**22.10** Братья Кличко. Лучшие бои. Виталий Кличко против Вона Бина.

### СТВ+RenTV

**06.30, 18.00** "Минщина. Люди, события, факты".
**06.45** "Утро столицы".
**07.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.45** "24 часа".
**07.50, 20.00** "СТВ-спорт".
**08.05, 20.10** "Минск и минчане".
**08.15, 20.20** "Технология".
**08.30, 20.35** "Автопанорама".
**08.50** "Театральные истории".
**09.05** "Трансформеры". Мультфильм.
**09.35 "К солнцу!".** Боевик.
**11.05** "Безумный мир". Док.фильм.
**12.00** "Час суда".
**13.00** "Скетч-шоу".
**13.50, 18.30 "NEXT-2".** Сериал.
**14.50 "Домик с собачкой".** Сериал.
**15.45** "Веселые баксы".
**16.15** "Тема дня".
**16.50** "Турпоход".
**17.00** "Классика юмора".
**18.15** "Светская хроника".
**20.55 "Техасский дьявол".** Триллер.
**23.10** "Реактивный бокс".
**23.30** "Для всех..."
**00.20** "Новости СНГ".
**00.35 "Похождения брошенного мужа".** Комедия.

### 8-Й КАНАЛ

**07.00, 17.00 "Секретные материалы".** Сериал.
**07.50, 17.50** "Телемагазин".
**08.00 "Приключения Геккельберри Финна".** Комедия.
**09.45, 19.50 "Любовники пустыни".** Сериал.
**10.30, 21.10 "Призрак".** Триллер.
**16.30** "Мультпарад" от "Бюргера".
**18.00 "Высота".** Комедия.
**19.30, 21.00** "Атомик Филмз" и "К-видео" представляют...
**19.40** "Мобилизация".
**20.45** "Вечарніца".

### ТВ ЦЕНТР

**04.45, 06.30** "Настроение".
**07.35 "Разлученные убийством".** Драма.
**09.20** "Девочка и слон". Мультфильм.
**09.40** "Европейские ворота России".
**09.45** "Телемагазин".
**10.00, 13.00, 17.00. 21.00** "События. Время московское".
**10.15** "Секретные материалы: расследование ТВЦ".
**10.55** "Районный город русского значения". Суздаль.
**11.15** "Бал юных спортсменов".
**12.15** "Доходное место".
**12.20, 23.00** "Петровка, 38".
**12.40** "Денежный вопрос".
**13.15 "Инспектор Кресс".** Сериал.
**14.30 "Неприрученная Амазонка".** Сериал.
**15.00** "Регионы: прямая речь".
**15.30** "Только для мужчин".
**16.00 "Парижский полицейский".** Сериал.
**17.15** "Приглашает Борис Ноткин".
**18.00 "Страсти по Саломее".** Сериал.
**18.50** "Пять минут деловой Москвы".
**18.55 "Ликвидатор".** Боевик.
**20.40** "Репортер".
**21.40** "Народ хочет знать". Ток-шоу.
**22.30** "Времечко".
**23.20** "25-й час. События. Время московское".
**23.45 "Железный орел-3: асы".** Боевик.

### EUROSPORT

**09.30** Мультиспорт. "Всякая всячина".
**09.45** Мультиспорт. "Гость недели".
**10.00** Конный спорт. Суперлига в Германии.
**11.00, 11.15, 19.00** Ралли. Чемпионат мира в Аргентине.
**12.15, 13.15** Футбол. Альпийский кубок в Германии.
**15.00, 23.00** Велогонки. Тур де Франс.
**20.15** Бокс. Международные соревнования в Италии.
**21.00** Аэробика.
Чемпионат мира в Болгарии.
**22.00** "Самый сильный человек". Командные соревнования в Венгрии.
**00.15** Экстремальный спорт. "Молодежная зона".
**00.45** Новости "Евроспорта".
**01.00** Бильярд. Международные соревнования в Голландии.

**Адрас рэдакцыі:**
**220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: (017) 206-68-71.**
**Тэл./факс рэкламнага аддзела: 206-69-04, 206-69-06.**
**E-mail : nv@promedia.by**
**http://nv.promedia.by**

**Індэкс 63222.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ**



Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №246 ад 10 кастрычніка 1996 г. (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Нумар газеты аддрукаваны з дыяпазітываў заказчыка ААТ «Красная звезда», 220073, г.Мінск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Падпісаны ў друк у 15.00. Аб'ём 2 друк. аркушы. Тыраж: 27 050 экз. Заказ № 696.